Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem

**У гэтым нумары 6 страніц.**

**Цана асобнага нумару 20 грош.**

# НАРОДНАЯ СПРАВА

**Выходзіць два разы ў тыдзень.**

| | | |
|---|---|---|
| **Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:** **Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6).** Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі. | **Цана абвестак:** перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |

**№. 14** **Вільня, Субота, 4-га верасьня 1926 г.** **Год I.**

## „Хвароба росту".

Нязвычайна шыбкі рост арганізацыі „Грамады", якая ў працягу нейкіх трох месяцаў пасьпела ўжо прыдбаць 12,000 сяброў і стварыць каля 400 гурткоў,—гэта найлепшае выяўленьне поступу ў сацыяльным і нацыянальным самаўсьведамленьні беларускіх сялян і работнікаў, гэта мо' найбольш красамоўнае сьведацтва аб тых настроях, якія пануюць у нашай вёсцы.

У беларускай масе ўжо збудзілася пачуцьцё грамадзкасьці, пачуцьцё еднасьці ўсіх працоўных, пачуцьцё супольнасьці інтарэсаў і супольнасьці перажываных крыўд і зьдзекаў. А з гэтага і вынікае **імкненьне да арганізацыі**, да гуртаваньня сваіх сілаў дзеля самаабароны і супольнага змаганьня за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне. І шыбкі рост партыі, якая адпавядае гэтаму імкненьню, гэта—зьявішча зусім **нармальнае, здаровае**.

Аднак, у кожным масавым руху, у кожнай масавай арганізацыі, хоць і абапертай на зусім здаровых падставах, няўхільнымі зьяўляюцца і праявы хвараблівыя, пепажаданыя, вынікаючыя з уваходу ў партыю адразу **вялікае лічбы людзей**. Праявы гэткія бачым мы і ў „Грамадзе" і лічым сваім абавязкам адразу-ж іх паставіць на від, даць ім належнае асьвятленьне і паказаць спосабы, якія памаглі-бы ўсьцерагчыся іх надалей.

**„Хвароба росту"**, як будзем яе называць, выяўляецца ў „Грамадзе" перадусім у тым, што — побач з зусім ужо сьвядомымі элемэнтамі, побач з людзьмі, гатовымі да ўсякіх ахвяр, якіх можа вымагаць ад іх барацьба,—у партыю запісываюцца наагул усе пакрыўджаныя і нездаволеныя істнуючым парадкам, усе, каму цяжка і дрэнна жывецца, ды хто думае, што, запісаўшыся ў сябры партыі, яны ўжо выпаўнілі ўсё патрэбнае і могуць, склаўшы рукі, спакойна сядзець і ждаць нейкага паляпшэньня.—Але-ж задача партыі—гэта **няўстанная жывая праца**, гэта арганізацыя перадусім **штодзеннага змаганьня за здаваленьне найбольш пільных патрэб народу**, гэта—**чыннае ўчасьце ў агульным змаганьні працоўных** за здабыцьцё ўлады для сялян і работнікаў ды за зьдзейсьненьне гэтым шляхам іх высокіх сьветлых ідэалаў. І затым-та ў партыйную арганізацыю трэба прынімаць ня кожнага, хто толькі гэтага **захоча**, а выключна тых, хто адпавядае стаўляным партыяй вымогам, хто **дарос** да чыннае працы ў партыі.

Другая праява „хваробы росту" — тое, што і сярод чынных сяброў партыі пападаюцца адзінкі, якія не заўсёды ясна разумеюць, што мусіць рабіць партыя. Як недарослыя да ўчасьця ў партыі сябры яе, няздольныя да актыўнае працы, грашаць проці яе сваей **бязьдзейнасьцяй**, — так і яны грашаць проці партыі сваей лішняй **гарачнасьцю**. **Энтузіязм**—вялікая рэч: без энтузіязму, які родзе тысячы няведамых гэрояў, без энтузіязму, які выплывае з глыбокае веры ў сваю справу, — мы не маглі-бы абыйсьціся. — Але нашы сілы мы мусім навучыцца **правільна выкарыстываць** дзеля нашае вялікае ідэі. Вызваленьне нашае—справа ня лёгкая і ня простая. Дык не на паасобныя неарганізованыя, нязьвязаныя з агульным рухам, выбухі гневу ці ненавісьці павінны мы растрачываць свае сілы: ад такіх выступленьняў ня толькі няма карысьці, але часамі бывае навет шкода для руху і партыі!—Не: ўсю сваю энэргію, усе свае сілы мы мусім пакіраваць на **сыстэматычную, упорлівую, няспыняючуюся падгатоўку масаў** да здабыцьця ўлады для сялян і работнікаў. Мы мусім правадзіць усе выступленьні масы арганізована. Мы мусім таксама арганізована змагацца з усімі крыўдамі і зьдзекамі ў нашым штодзенным жыцьці, супольнымі сіламі бараніць нашы правы, прымаць учасьце ў-ва ўсіх палітычных акцыях, якія маюць значэньне для ўсяго нашага краю; мусім бароцца за месца ў самаўрадах, за асьвету ў роднай мове—школьную і пазашкольную,—мусім арганізоўваць школы, курсы для дарослых, гурткі дзеля самаразьвіцьця, бібліатэкі-чытальні, мусім пашыраць свае газэты і кніжкі, мусім ладзіць драматычныя гурткі і хоры, дапамагаць да арганізацыі эканамічнае самапомачы і г. д.

Мы так падробна пералічваем спосабы працы ў вёсцы, да якіх заклікаем кожнага грамадзіста, затым, што да супрацоўніцтва тут можна прыцягіваць і тыя элемэнты вёскі, якія цяпер пруць у „Грамаду", хоць да працы ў партыі не падгатаваны! Такіх элемэнтаў нельга зусім адкідаць ад арганізацыі, а трэба даць ім рабіць тое, што яны ў сілах рабіць, знаходзячыся адначасна пад уплывам партыі і праходзячы на практыцы як-быццам **школу грамадзкае працы**. Гэта і будзе **падгатоўка да пазьнейшага ўваходу ў партыю**.

Вось лек на першую праяву „хваробы росту" партыйнае арганізацыі: **ня браць у партыю непадгатаваных дзеля гэтага людзей**, а перш **узгадоўваць іх** у грамадзкім духу—на грамадзкай працы. Праўда, тады шыбкасьць росту партыі крыху зьменшыцца,—але затое павялічыцца вартасьць ладжаных гурткоў „Грамады".

Дый на другую праяву „хваробы росту" ёсьць лек. Перадусім—суровая **партыйная дысцыпліна ў-ва ўсіх важнейшых выступленьнях** арганізацыяў „Грамады". Далей—**ўзмацаваньне павятовых цэнтраў партыі**, якія мелі-бы магчымасьць беспасрэдна даваць **належны кірунак** працы гмінных камітэтаў і гурткоў, вядучы іх на правільны шлях, ды кіраваць кожнай паважнейшай акцыяй іх. Дзеля гэтага неабходна арганізацыя **кадру партыйных інструктароў**, якія сыстэматычна аб'яжджалі-бы арганізацыі на мясцох, знаёміліся з іх працай, давалі бы рады, дырэктывы і інфармацыі. **Урэшце** мусіць быць распрацавана і надрукава **партыйная літэратура**, якая разьвівала-бы ідэалёгію і тактыку партыі, даючы адказ на ўсе недаўменныя пытаньні, што няўхільна будуць узьнімацца, дый пэўне-ж ужо ўзьнімаюцца—перад кожным думаючым грамадзістам.

Ведама, на ўсё гэта патрэбны перадусім грошы. І затым-та новастворавыя арганізацыі на мясцох мусяць асаблівую ўвагу зварачаць на тое, каб сябры партыі **акуратна плацілі сяброўскія складкі**—хоць-бы самыя маленечкія, бо, маючы 12,000 сяброў у партыі, можна гэтым шляхам забясьпечыць магчымасьць і інструктарскае працы, і выдавецкае, і ўсякае іншае.

Лекі на ўсе праявы „хваробы росту" партыі— ў руках самае ж партыі!

## ГРАМАДЗЯНЕ!

Мала засталося часу, у працягу якога можна падаваць дэкларацыі на родную беларускую школу. Школьныя інспэктары, згодна з распараджэньнем Міністэрства Асьветы з 7. І. 1925 г., будуць прынімаць іх толькі *да 31 сьнежня*. Хто хоча мець сваю Беларускую Урадавую Школу ў будучым школьным годзе, той *павінен да 31 сьнежня с. г. падаць аб гэтым заяву* (*дэклярацыю*).

Праўда, што ад складаных дэклярацыяў у 1925 годзе беларускі народ карысьці ня меў, бо ніводнае беларускае школы ўрад братоў Грабскіх нам не адчыніў. Але ў сучасны мамэнт пры ўладзе стаяць іншыя асобы, якія шмат гавораць аб іх быццам шчырых імкненьнях ня крыўдзіць беларускі народ, а даць яму належныя правы; дзеля гэтага мы яшчэ раз павінны голасна заявіць і гэтаму новаму ўраду, чаго нам трэба, чаго мы дамагаемся.

Вялікае надзеі і на гэты новы ўрад, ведама, ускладаць нельга; але, прыймаючы пад увагу, што мы ў сучасны мамэнт зьяўляемся ўжо больш з'арганізаванымі, што цяпер будуць весьці барацьбу за родную школу не адзінкі, а нашы з'арганізаваныя культурныя ўстановы—Гурткі Т-ва Беларускае Школы, нашае трэбаваньне будзе мацнейшае і паважнейшае.

Дык за працу, Грамадзяне!

Перш-наперш усе, хто хоча мець сваю родную школу, *запісвайцеся ў сябры Т-ва Беларускае Школы і арганізуйце гурткі яго*, якія і займуцца ўсімі культурнымі справамі. Памятайце толькі, што *сьпіскі сяброў гуртка Т-ва трэба безадкладна пераслаць у Галоўную Управу Т-ва Беларускае Школы ў Вільні*, якая афіцыяльна будзе паведамляць адміністрацыю аб утварэньні Гуртка на падставе зацьверджанага Міністэрствам Статуту. Гэта зрабіць неабходна дзеля таго, каб паліцыя і іншая адміністрацыйная ўлада не перашкаджала Вам зьбірацца дзеля абгаварваньня спраў, зьвязаных з школаю і іншымі асьветнымі пытаньнямі.

Усім ведамым нам асобам Т-ва адначасна высылае інструкцыю ў справе арганізацыі гурткоў; хто йшчэ захоча, таму высылаем гэтак сама ўраз-жа пасьля атрыманьня паведамленьня.

Атрымаўшы сьпісак сяброў гуртка і склад прэзыдыуму, Галоўная Управа безадкладна вышле друкаваныя блянкі дэклярацыяў і інструкцыю, як, калі і каму падаваць дэклярацыі.

У гэты мамэнт, калі мы ўжо маем па вёсках соткі мясцовых арганізацыяў, агульны абавязак—*правясьці кампанію за родную школу плянова і арганізавана.*

За працу, Грамадзяне! Усе дружна на барацьбу *за родную Школу*!

*Галоўная Управа Т-ва Бел. Школы ў Вільні.*

Вільня, 1/IX 1926 г.

**УВАГА.** Паводле статуту, кожны сябра гуртка Т-ва Беларускае Школы павінен плаціць сяброўскую складку па 50 гр. у месяц, што часта бывае цяжка пры агульнай галіце нашай вёскі, асабліва-ж для тых, хто ўжо плоце сяброўскія складкі ў іншыя беларускія арганізацыі.—Галоўная Управа Т-ва справу ўрэгуляваньня сяброўскіх складак перадасьць на разгляд агульнага сходу Т-ва. Паводле статуту, сход мае права зьменшыць складку наагул, або зусім звольніць ад яе тых сяброў, матэр'яльнае палажэньне якіх надта цяжкае. Такім чынам пры арганізацыі гурткоў справа складак ня будзе стаяць на перашкодзе.

Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаёмаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!

# З жыцьця „Грамады“.

## НОВЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ.

У ніжэйпаданых мяйсцовасьцях з'арганізаваліся новыя Гурткі і выбраны Камітэты Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады:

199. 13./VIII. у в. **Галенчына**, Язьненскае гм. Дзісьненскага пав.
200. 13./VIII. у в. **Забалоцьце**, Мікалаеўскае гм., Дзісьненскага пав.
201. 8./VIII. у в. **Саляніні**, Чамерскае гм., Слонімскага пав.
202. 14./VIII. у в. **Навасёлках I**, Вярхнянскае гм., Дзісьненскага пав.
203. 8./VIII. у в. **Дубінах**, Лісенскае гм., Бельскага пав.
204. 14./VIII. у в. **Петравічах**, Ракаўскае гм., Маладэчанскага пав.
205. 3./VIII. у в. **Воронкі**, Ёдзкае гм., Браслаўскага пав.
206. 13./VIII. у в. **Сьценкі**, Тумілаўскае гм., Дзісьненскага пав.
207. 8./VIII. у в. **Сшо**, Празароцкае, гм., Дзісьненскага пав.
208. 8./VIII. у в. **Рудніні**, Празароцкае гм. Дзісьненскага пав.
209. 15./VIII. у в. **Зарэчнае**, Крывіцкае гм., Вялейскага пав.
210. 15./VIII. у в. **Вяліка-Гаць**, Сьвятавольскае гм., Косаўскага пав.
211. 14./VIII. у в. **Місуры**, Дакудаўскае гм., Лідзкага пав.
212. 15./VIII. у в. **Малая-Гаць**, Сьвятавольскае гм., Косаўскага пав.
213. 1./VIII. у в. **Вяліка-Недзьвяйна**, Валянскае гм., Баранавіцкага пав.
214. 14./VIII. у в. **Целяшох**, Празароцкае гм., Дзісьненскага пав.
215. 8./VIII. у в. **Воўкавічы**, Гарадэчанскай гм., Наваградзкага пав.
216. 15./VIII. у в. **Паланка**, Гарадэчанскай гм., Наваградзкага пав.
217. 15./VIII. у в. **Амневічы-Панскія**, Гарадэчанскай гм., Наваградзкага пав.
218. 14./VIII. у в. **Католышы**, Усялюбскай гм., Наваградзкага пав.
219. 15./VIII. у в. **Лагадкі**, Райчанскае гм., Наваградзкага пав.
220. 15./VIII. у в. **Рута-Дольная**, Гарадэчанскай гм., Наваградзкага пав.
221. 14./VIII. у в. **Рута-Горная**, Гарадэчанскай гм., Наваградзкага пав.

**Камітэты Гурткоў працуюць што-дня.**

### Павятовы зьезд у Вялейцы.

29-га жніўня адбыўся зьезд „Грамады“ Вялейскага павету—ў м. Вялейцы. Справаздачу дамо ў наступным нумары.

### Аб зьезьдзе Лідзкага павету.

Зьезд Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады, які вызначаўся на 5-га верасьня (гл. № 13 „Народнае Справы“), пераносіцца на нядзелю 26-га верасьня с. г. Гэтая адсрочка дасьць магчымасьць правесьці на мяйсцох больш шырокую арганізацыйную працу.

### Адказы Цэнтр. Сэкрэт. Грамады на лісты.

1. Якубчык. Пастановы Вашыя даюць нам гарантыю правядзеньня і надалей Вамі актыўнай барацьбы. Распаўсюджывайце працу на бліжэйшыя ваколіцы.
2. Алексіцкі Гурток — 15 зл. 50 гр. атрымалі і перадалі на пагарэльцаў. Шчырая падзяка.
3. Рыпіцкі Гурток. Школьныя статуты і дэкларацыі будуць высланы. Рух навет самай зеленай моладзі павінен быць ня толькі палітычным, але і партыйным.
4. Іголка. Вестка прышла запозна. Трэба раней паведамляць Цэнтр. Сэкрэт.
5. Тартак. Смолік. Выпадак лішні раз даказывае, што клясавая сьвядомасьць і салідарнасьць у буржуазіі больш разьвіта, чым клясавая сьвядомасьць у працоўных. Змагайцеся за свае правы.
6. Клетнінскі Гурток. Высылаем зацьверджаньне Гуртка і пасьведчаньне. Прысутнасьць прадстаўніка ўлады на партыйным сходзе зусім не абавязкава.
7. Андрэй Гурыла. Высылаем друкі і білеты. Грамадоўцы правідлова захоўваліся да правадыроў ППС—здраднікаў—Валіцкага і Махая.
8. Герман. Сьвіслач. Друкі высылаем. Дазвол ад Ураду на прадажу газэт патрэбен толькі ў выпадку, калі прадавец стаіць на мейсцы. Прадаваць газэты ходзячы можна без дазволу. Умовы прадажы газэт знойдзеце ў інструкцыі. Верасень будзе заняты павятовымі зьездамі.
9. Ігнатовіч, Рыбальскі, Крук, Смокіла Бурак—высылаем лісты.
10. Т. Мазур. Ня трэба было падпісываць прataколу, ня згоднага з праўдай. За 3 дні да сходу паведамляйце старостава.
11. А. Каўрус. Адносна пячатак зьвярніцеся да свайго Павятовага Камітэту. Зьбіраць подпісы за звальненьне палітычных вязьняў можна на сходах і па-за сходамі.
12. Кірасаўскі Гурток. Пагляд Ваш неправідловы. Толькі работніцка-сялянскі ўрад зьліквідуець ўсе сучасныя непаразуменьні і крызісы.
13. Сьветавастокаў. Паслы ў Юрацішкі прыехаць не маглі па незалежным ад іх прычынам.
14. Мастэрка і Вароніцкі Гурток. Аб істнаваньні Вашых Гурткоў староства паведамлена.
15. Пудзінскі Гурток. Жанчыны бязумоўна могуць уваходзіць у Гурток і карыстацца ўсімі правамі запраўдных сяброў Грамады.
16. Воўкаў і Андрэеўскі. Інфармацыйны матар'ял высылаем. З Вамі не згаджаемся. Права і дзяржава—узмацненьне эканамічна пануючай клясы.
17. Назарук. Карэспандэнцыю перадалі ў Рэдакцыю. Даты фэстаў прыймаем да ведама.
18. Андзілеўка. Грошы можаце пераслаць у канцы года. Палова перасылаецца нам, палова застаецца на патрэбы Гуртка. Газэты на пададзеныя адрэсы будуць высылацца.
19. Кірчык. Баяцца няма чаго. Ёсьць прыказка: „Не ланцугі робяць чалавека рабом, а рабскі дух“.
20. Арэх Васіль. Буржуазія не разьбіраецца ў сродках барацьбы. Старайцеся давясьці справу да канца.
21. Макарэвіч. Пагляд Ваш неправідловы. Крыніца зла—сучасны грамадзкі лад.

# Аб чым пішуць.

## Да пашырэньня Радавае Беларусі.

„Сялянская Ніва“ ў адным з апошніх нумароў перадрукавала з „Савецкае Беларусі адрывак з стацьці „Лясная гаспадарка БСРР“, у якой аўтар, пішучы аб вялікай ролі лясное гаспадаркі ў Беларусі, кажа паміж іншым гэтак:

> „Але ня толькі гаспадарка Беларусі карыстаецца прадукцыяй беларускіх лясоў, — значная частка ідзе і ў іншыя райёны, напр. у Гомельшчыну, прамысловасьць якой карыстаецца сырызнай беларускіх лясоў.
>
> У сувязі з гэтым высоўваецца пытаньне аб аб'яднаньні лясное гаспадаркі Заходняй вобласьці. Тут мы маем вадаразьдзел Заходняй Дзьвіны, у які ўваходзяць Віцебская і Полацкая акругі БСРР, а таксама Веліскі, Невельскі і Себескі паветы Пскоўскай губэрні. Апошнія тры ўваходзілі раней у склад Віцебскай губ., цесна зьвязаны эканамічна і этнаграфічна з БСРР, а з Пскоўскай губ., ніякае сувязі ня маюць (асабліва Веліскі пав. цалком зьвязаны з Віцебскай акругай). Затым, сыстэма Дняпра, у якую ўваходзіць і Гомельшчына. Тут трэба адзначыць, што ў Гомельшчне, як і ў БСРР, значная частка прамысловасьці занята пераапрацоўкай лясное сырызны—38,1 проц. усяе прадукцыі за 1924—25 год. Прылучэньне Гомельшчыны да БСРР утварыла-б багатую лясную гаспадарку і буйнае аб'яднаньне прамысловасьці, якая пераапрацоўвае сырызны. Лішняе гаварыць аб тым, што такое аб'яднаньне



што ў кароткім часе вада выпаласківае яго ў ніжэйшыя слаі, куды рэдка дасягаюць карэньні. Так-жа кіслыя і тарфавыя землі пажадаюць фосфар у іншай форме, бо супэрфасфат, як кіслая соль, мала ім даецца. Трэба пад буракі, якія ў пачаткавым росьце патрабуюць шмат фосфару, трэба й на лёгкія тарфовыя землі даваць фосфар у форме супэрфасфату. Тое самае адносіцца да расьлін з каротка-часовым ростам, да якіх належыць ячмень, і таму пад ячмень найлепшым фасфоравым гноем будзе супэрфасфат.

Тамашоўку атрымоўваюць, як пабочны прадукт, пры ачышчаньні ад фосфару растопленага жалеза. Спосаб чышчэньня жалеза падаў англіец Томас, ад гэтага і сам прадукт завецца „жужлямі Томаса“, або проста тамашоўкай. Тамашоўка мае у сабе 16—24 проц. фасфоравага квасу, ды каля 50 проц. вапны. Фасфоравы квас выступае тут у такім павязаньні, якога нідзе не знаходзім. Гэта — чатырох фосфарная вапна. Гэтая соль, што праўда, не распушчаецца ў вадзе, затое лёгка распушчаецца ў зямлі пад уплывам вугальнага, або перагнойнага (гумусавага) квасу.

З гэтай прычыны вапны і тамашоўку ня можна мяшаць з аднолькавымі гнаямі, апрача салітры, ды з супэрфасфатам. Уплыў тамашоўкі ў першай чарзе залежыць ад яе памолу. Чым яна драбней памелена, тым лепшая. Падчас куплі тамашоўкі трэба вымагаць запэўненьня, што 70 проц. фасфоравага квасу тамашоўкі распусьціцца ў 2 проц. цытрыновым квасе.

Фасфоравы квас у тамашоўцы ня так скора выяўляе сваю дзейнасьць, як гэты ж самы квас у супэрфасфаце. Ён распушчаецца вельмі павольна, а дзеля гэтага тамашоўка больш надасцца на лёгкія землі, ды на іх ня толькі дараўноўваецца да супэрфасфату, але навет яго перавышае. Трэба аддаць справядлівасьць тамашоўцы на землях кіслых, тарфовых і на сенажацьцях, бо там ёсьць перагнойны квас, а ён прычыняецца да хутчэйшага раскладу тамашоўкі.

З расьлінаў найлепш выкарыстоўваюць тамашоўку матыльковыя (гарошкавыя), а пераважна канюшына й люцэрна дзеля таго, што тамашоўка добра ўплывае ў 2—3 годзе; можна пад гэтыя расьліны адразу рассеяць такую колькасьць, якая патрэбна на ўвесь час істнаваньня расьліны. Тамашоўку рассяваюць перад пасевам насеньня, трэба толькі баронамі добра вымяшаць яе з зямлёй.

(Далей будзе).

*У. Павалковіч.*

## Як павялічыць зыск з малое гаспадаркі ў нашай вёсцы.

Сяляне! Зямлі ў нас мала, спадзявацца, што яе нам дадуць, пакуль што ня прыходзіцца, а добра гаспадараваць і на гэтым маленькім кавалачку зямлі, які знаходзіцца ў нашым распараджэньні, мы, к сораму свайму, ня ўмеем. Ад гэтага і жывём мы упрогаладзь. Галадоўля, безграшоўе, пэндза—вось нашы падарожнікі ў сучасны мамэнт.

Адкуль чакаць ратунку, на што спадзявацца ў гэты час навальніцаў і розных палітычных неразбяріхаў?—вось пытаньне, з якім сьпім і ўстаём.



А ратунак ёсьць і самы пэўны, гэта: скідаць з сябе векавую сьпячку, прызваць на помач знаньне, якое і пакажа нам спосабы, як выйсьці з гэтага кепскага палажэньня.

Веда, веда і толькі яна адна можа асьвяціць ясна шлях, па якім нам трэба ісьці да паляпшэньня свайго эканамічнага стану. Веда — гэта ўсёмагутнае аружжа, з якім мы хутка пераможым цемнату, беднату і галадоўлю. Ужыўшы веду, мы не пажалеем пажагнацца з тымі парадкамі на вёсцы, якія нам перададзены ў спадчыну нашымі бацькамі і дзядамі і якія давялі нас да жабрацтва.

Праўда, ужо некаторыя гаспадары на вёсцы пазналі, што далей вясьці сваю гаспадарку так, як яны вядуць цяпер — немагчыма, бо ў недалёкай будучыне перад іх вачамі стане зданьне галоднай сьмерці.

„Ну, скуль узяць гэту веду ў нас на вёсцы, калі яе да нас ня пускаюць? Ці маем мы, земляробы, часу, каб узяцца за кніжку і вучыцца?“—скажа пэўне мне не адзін чытач.

Няпраўда, сяляне! Кніжак па сельскай гаспадарцы ня так ужо і трудна ў нас знайсьці, а што датычыцца часу, то і яго не бракуе, бо „на пераліваньне з пустога ў парожняе“, ці на плёткі, за якімі вёска праводзе доўгія зімовыя вечары і ўсе сьвяты праз цэлы год—ня толькі гэтага часу не бракуе, а астаецца ў дастатку.

Дык вось, сяляне, з сягоньняшняга дня бяром гэту газэтку ў рукі, завём „грамацея“, які пэўне не адмовіцца вам пачытаць і будзем слухаць, як гэта жылі нашыя продкі, як жывуць цяпер другія народы, каторыя не баяцца навукі і як нам трэ гаспадараваць, каб зрабіць больш карыснай сваю маленькую гаспадарку. Усе тое, што мы ўбачым ніжэй, можна сьмела завадзіць у сябе, не баючыся, што гіне „спадчына“ вашых бацькоў і дзядоў, бо тыя парадкі, якія яны нам перадалі, мо' і мелі сэнс калісьці, але ня сяньня.

І так, браты беларусы, за працу!

### І. Як жылі нашы продкі.

Ужо ў далёкія ад нас часы чалавек навучыўся сельскай гаспадарцы. Але было гэта даўным-даўна, калі людзі ня ведалі, што такое зямельнае пытаньне, бо абрабляць зямельку ім ня трэ' было, а жылі толькі тым, што натура давала, хаця ў дзікім, але гатовым відзе. Дзікая зьвярына, дзікае карэньне па лугох і лясох зьяўляліся галоўнымі спосабамі пражыўленьня чалавека да гаспадарчае эпохі. Зручнасьць у паляваньні, уменьне кіраваць дубінкай, ці каменным тапаром, а пазней лукам (пяцівай), былі ў такой пашане ў гэну эпоху, як у сучасны мамэнт уменьне абрабляць сваю ральлю.

Ведама, што гэтакім спосабам прагадаваць сваю сямью нашы продкі маглі толькі пры тых варунках, калі народу была мала, а зямлі наўкол у дастатку.

Лічуць, што для гэтага трэ' лепшага гатунку зямлі, на якой расьце ўсё добра, ня меней 1000 дз. на аднага чалавека, а пушчэйшага—да 4000 дз.

І вось, калі станавілася цяжка пражыць паляваньнем, колькасьць дзічыны зьмяншалася, а народу ўвялічалася, чалавек мусіў, каб не

бязумоўна памагло-б рацыяналізацыі пастаноўкі, як лясной, так і дрэваапрацоўчай прамысловасьці і гэта неабходна правесьці ў бліжэйшы час, тым больш, што прылучэньне да БСРР Гомельшчыны і былых паветаў Віцебскай губ., якія адыйшлі да Пскоўскай губ., было-б мэтазгодна, як ў эканамічных, так і ў этнаграфічных адносінах“.

Да гэтага выводу **бальшавіцкага** беларускага органу рэдакцыя „Сялянскае Нівы“ ад сябе дадае такую заяву:

„З гэтага бачым, што **бальшавікі** зусім ня думаюць пашыраць Радавую Беларускую Рэспубліку. Наіўная „Сав. Беларусь“. Няўжо-ж у Маскве ня ведаюць, што гаспадарка беларускіх земляў вымагае злучэньня іх у адно? Але гаспадарскія і інш. матывы істнуюць у маскоўскіх бальшавікоў толькі тады, калі яны хочуць пакрыўдзіць Беларусь, але зусім не тады, калі трэба прызнаць Беларусам звычайную справядлівасьць.

Як ведама, спагаднікі радавае ўлады ў Заходняй Беларусі карыстаюцца і часта ловяць людзей на вудку тым довадам, што Радавая Беларуская Рэспубліка будзе пашырана. Дык ведайце, людзі, якая гэта праўда, і ня верце ім“.

Што буржуазныя беларускія элемэнты вельмі цешацца, калі могуць знайсьці нейкую прычэпку да работніцка-сялянскае ўлады, — гэта рэч звычайная. Але ў гэтым выпадку наіўнасьць іхняе газэты ня мае ніякіх межаў: бо-ж іменна выступленьне **чыста бальшавіцкае** „Сав. Беларусі“ паказуе найлепш, што ня хто іншы, а **самі бальшавікі** „думаюць аб пашырэньні Беларусі“ і даказываюць патрэбу гэтага!

Мы-бы не затрымаліся на гэтых недарэчных гутарках „Сял. Нівы“, калі-б у наступным за гэтым нумары з 31 жніўня газэта не зачапіла „Грамаду“ і, называючы яе „бальшавіцкімі спагаднікамі“, не закінула грамадаўскай прэсе, што яна памыляецца, веручы ў далейшае пашырэньне Радавае Беларусі — шляхам звароту ёй часьцін Магілёўшчыны (Гомельшчыны), Віцебшчыны, Смаленшчыны і Чарнігаўшчыны, якія цяпер астаюцца па-за межамі Беларускае Рэспублікі.

Так, мы верым, што ў дзяржаве, у якой улада належыць да працоўных, воля тых-жа працоўных будзе зьдзейсьнена. А воля сялян і работнікаў на ўсходніх акраінах Беларусі, што цяпер знаходзіцца пад Масквой, выразна трэбуе далучэньня іх да сваей Беларускай Рэспублікі, з якой яны зьвязаны неразрыўна і эканамічна і гаспадарча і нацыянальна. Найлепшым жа доказам такое волі да адзінства з усім беларускім народам зьяўляецца шырокі культурна-нацыянальны беларускі рух, які выяўляецца ў падмаскоўскай часьці нашае Бацькаўшчыны. І бальшавікі, якія-б супраціўліся гэтай волі, ня былі-б ужо бальшавікамі!

Спадзяемся, што ўжо ў хуткім часе грунту дзеля лямантаваньня „Сял. Нівы“ ня будзе: далучэньне да шасьцёх паветаў цантральнае Беларусі яшчэ шаснадцацёх у 1924 годзе — гэта-ж найлепшы доказ таго, што воля беларускіх сялян і работнікаў перамагае і — пераможа да канца, злучаючы ў-вадно ўсе землі, дзе пераважае беларускае насяленьне.

# ХРОНІКА.

**Хлеб далей вывозяць!** Газэты паведамляюць, што ўрад ня думае спыняць вываз збожжа заграніцу.

Каб не дапусьціць далейшага росту цэн на хлеб (які падаражэў ужо больш, як на палавіну!), урад маніцца ўзяць назад крэдыты, дадзеныя абшарнікам. Але ж абшарніцкі орган „Slowo“ ядавіта заўважыў, што ...гэных крэдытаў дагэтуль ніхто й не атрымаў!

У Вільні цана на чорны хлеб ужо дайшла да 40 гр. за кіляграм, сталовы—да 60 гр. і белы—да 65 гр.

**І ў Вільні пачынаюць гнаць чорнасоценцаў!** На што ўжо Вільня апанавана клерыкаламі і іншымі чорнасоценцамі,—дык-жа і тут пачынае праходзіць чад, якім яны туманяць душы народу.

Так-званы „Польскі выбарны камітэт застрахованых у Касе Хворых“ (буржуазна-клерыкальны) склікаў быў 29 жніўня ў Мястовай Салі перадвыбарнае веча, каб агітаваць за сваіх кандыдатаў у Касу Хворых. Але веча гэнае скончылася дужа непамысна для яго арганізатараў: калі папробавалі прамаўляць кс. Альшанскі і ведамы Обст (рэдактар чорнасоценскага „Dzinnika Wileńsk.“), —дык сабраныя ім не далі гаварыць і папросту выгналі вон. Тады паліцыя разагнала мітынг.

**„Жыцьцё Моладзі“.** Па загаду камісара ўраду на м. Вільню паліцыя сканфіскавала беларускую аднаднёўку „Жыцьцё Моладзі“ за стацьці „На барацьбу з нацыянальным уціскам“ і „Свабоду палітычным вязьням“!

Беднае ты, жыцьцё нашае моладзі...

**Новыя беларускія кніжкі.** Зьявіліся ў прадажы ў віленскіх беларускіх кнігарнях новыя кніжкі: 1) пад наз. „Бартэк пераможнік“ Г. Сенкевіча. Пераклаў на беларускую мову Краўцоў Макар. Бал. 83 малога фармату. Цана 80 гр.

2) „Першыя крокі“—зборнік вершаў маладых беларускіх паэтаў у Лацьвіі. Бал. 85, цана 2 зл. 70 грошаў.

**Прыгавор у справе 40.** У віленскім судзе 30 жніўня закончылася справа 40 сялян з Дзісьненскага пав., якіх вінавацілі ў тым, што ў 1919 годзе—пры зьменах улады—яны разгрямілі і папалілі 16 панскіх двароў. Засуджаны: А. і Б. Арэхавы—на 8 гадоў катаргі кожны, Малатоўнікаў — на 6 гадоў; Юркевіч і Мірош—на 1 год вастрогу кожны; 23 сялян—за ўчасьце ў масавых выступленьнях, закончыўшыхся разгромам двароў,—на 6 мес. вастрогу кожнага, 12 падсудных апраўданы.— Юркевічу і Мірошу залічылі папярэдні арышт, і яны былі тут-жа звольнены.

**Напад на поезд.** 22 жніўня на вузкакалейцы паміж Васілішкамі і Гжывіцамі пад Лідай банда разбойнікаў напала на поезд і абрабавала ўсіх ехаўшых у ім.

Паліцыя заарыштавала ў Нова-Вялейцы двух учасьнікаў нападу—Пясэцкага і Невяровіча, якія прызналіся да віны і выкрылі сваіх хаўрусьнікаў. Аказваецца, што і тут не абыйшлося бяз учасьця паліцыі: бандытам дапамагаў у іх „працы“ паліцыянт Левандовскі, пастарункова паліцыі Віленска-Троцкага павету, які хаваў рабаваныя рэчы і аружжа, якое сам-жа дастаўляў!

**Паліцыянтаў будуць вучыць беларускае мовы.** На паліцыйных курсах для „przodowników“ паміж іншымі прадметамі мае быць уведзена і беларуская мова.

**Падзяка.** Урад Бел. Навук. Т-ва дзякуе гэтым за ахвяры рэчамі, прысланыя для музэю ім. Ів. Луцкевіча, грамадзянам: 1) Адварду Будзьцы—за 24 кніжкі ў расейскай і польскай мове—з гісторы і археалёгіі Беларусі; 2) Гальяшу Леўчыку—за партрэт Фэдэроўскага ў гіпсе (разьбіты); 3) С. Станкевічу—за нямецкія банкноты і румынскія манэты; 4) Гілю Антону ў в. Кашыцы, Пастаўскага пав.—за манэту; 5) за прысланыя праз рукі пасла Рака-Міхайлоўскага 19 медных манэт.

**Перасылка пісем падаражэла.** Ад 1 верасьня за перасылку звычайнага пісьма ў межах Польшчы трэба плаціць 20 гр., за адкрытку затое толькі 10 гр. Заграніцу — пісьмы ўдвая (40 гр.), адкрыткі—25 гр. (ў Аўстрыю, Чэхаславакію, Румынію і Вэнгрыю—па 20 гр.).

**Папраўка.** Згодна з просьбай нашага карэспандэнта адзначаем, што ў карэсп. аб мітынгу ў Белавежы (ў № 8 Народнае Справы з 14-га жніўня с. г.) аказаліся няточнасьці, якія вынiклі з таго, што арыгінал, як прызнае і сам аўтар карэспандэнцыі, быў напісаны нязьвязна. Няточнасьці датыкалі перадусім таго, што гаворыцца аб асобе п. Балаховіча, якога карэспандэнт не называў пагромшчыкам.

Падаючы гэту папраўку, сцьвярджаем, што па істце сваей усё, сказанае аб Балаховічу, зусім абаснавана фактамі.

**Афіцыяльны курс грошы на 3-га жніўня.** Даляр—8 зл. 95 гр. Залаты рубель — 4 зл. 61 гр.

30. VIII на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 8,95. Зал. руб. 4,61. Чырвонец 44.



памёрці з галоду, прывучаць больш карысную жывёлу, як напр: каня, рагатую скаціну, птушак і сабаку, як вартаўніка свайго статку.

У адных мясцох людзі дадумаліся перайсьці да прывучаньня скаціны раней, у другіх—пазней.

Есьць і цяпер народы, якія і пасяньня жывуць толькі паляваньнем, ці статкаводзтвам.

У апошнім, ня цяжка дадумацца, можна пражыць толькі тады, калі свабоднай зямлі для пасцьбы скаціны хватае ўдастатку.

Лічуць, што адна сямья можа пражыць гэтак, калі мае свабоднай зямлі 200—300 дзесяцін, тады, калі на гэтым абшары, пры хлебаробстве, можа ня горш пражыць 30—40 сямей.

Вось, чаму гэтая сыстэма гаспадараваньня павіна была мець свой канец, бо на зьмену ей прыходзіць новая, гэта—земляробства.

Але не адразу чалавек перахадзіў ад аднэй формы гаспадаркі да другой, бо яму цяжка было пакінуць усё старое, прывычнае і пачынаць новае—мала вядомае. Многа стараньняў прыхадзілася рабіць, каб уталкаваць разумнейшым людзям, сваім братом, каб перайсьці к новаму, для іх неабычнаму.

Вось як абразна ў Амэрыцы адзін індэйскі начальнік доказывае карысьць хлебаробства сваім таварышам:

„Ці вы ня бачыце, што вашыя суседзі бледнатварыя жывуць зярном, тады, як мы мясам? Што трэ' трыццаць лун для таго, каб вырасла мяса, і ўсё-ж такі яно гэтак рэдка? Што кожнае з тых дзіўных зярнятак, якія яны кідаюць у зямельку, варочаецца ім у стократ? Што мяса, якім мы жывём, мае чатыры нагі да беганьня, а мы толькі дзьве, каб даганяць яго? Што зярнятка сеюцца і растуць тамака, дзе іх сеюць белыя людзі? Што зіма, якая для нас зьяўляецца часам цяжкага паляваньня, для іх зьяўляецца часам салодкага адпачынку? І вось, я кажу кожнаму, хто мяне жадае слухаць: перш, пакуль кедры (тамашняе дрэва, даючае гарэхі) нашае вёскі памруць ад старасьці і кляны перастануць даваць цукар (у Амэрыцы ёсьць асобны гатунак клену, з соку якога дабываюць цукар), род дробных земляробаў зьніштожыць род жывушчых мясам, калі толькі паляўнічыя ня прымуцца самі сеяць“. (Вольногорской „Растенія—друзья человека“).

І гэны начальнік дзікіх меў слушнасьць, бо ўсюды паляўнічыя і статкаводы станавіліся земляробамі.

Працяг будзе.

*З. В.*

## Лякарскія зёлкі.

У месяцы верасьні далей зьбіраюць кветкі **белай шанты** і асобна кветкі, або зельле (г. зн. цэлую расьлінку з лісьцём і кветкамі) **братачкаў**, якіх цяпер асабліва многа на пожнях.

Цяпер-жа пачынаецца найбольшы збор насеньня, карэньняў і ягадаў.

### НАСЕНЬНЕ.

Гарчыцы белай. (Sinapis alba).
Гарчыцы чорнай. (Sinapis nigra).



ток, клець і пограб, якія разам каштуюць 96,8 жытніх адзінкі, а па плошчы займаюць 283 квадр. арш. або 3,41 кв. сажн. Калі кажуць аб лішніх будынках у гаспадарцы, мы павінны шукаць іх у гэтай групе.

Усе будынкі разам каштуюць 294,2 жытніх адзінак, што на 1 дзес. землякарыстаньня дае 34,95 жытніх адзінак. З боку колькасьці будынкаў і іх плошчы трэба лічыць стан гаспадаркі здавальняючым.

Значна горш стаіць справа ў нашай гаспадарцы з гаспадарчымі прыладамі (мёртвым інвэнтаром): іх усяго ёсьць на 82,44 жытніх адзінкі; прычым прылады для апрацоўкі зямлі каштуюць усяго 16,73 жытніх адзінкі. Зразумела, што з такой колькасьцю і якасьцю прылад гаспадар ня можа дакладна апрацаваць сваёй ворнай зямлі, ня кажучы ўжо аб сенажаці.

Жывёла ў гаспадарцы складаецца з аднаго каня і жарабяці з коштам абодвух у 189,23 жытн. адзінкі, з дзьвёх дарослых кароў і 2 цёлак (усе каштуюць 151 жытн. адз.), пяці авечак (16,6 жытн. адз.) і трох сьвіней (29,2 жытн. адз.) і дзевяцёх птушак (9,4 жытн. адз.). Уся жывёла разам каштуе 385,59 жытн. адзінкі.

Абаротных сродкаў гаспадарка мае на 22 жытн адзінкі (прыблізна).

Такім чынам, вытворчасьць нашай тыповай гаспадаркі абапіраецца на 9,05 дзес. зямлі, на капіталы: у будынках—294,2 жытн. адзін., у гаспадарчых прыладах—82,44 жытн. адз., у жывёле — 285,59 жытн. адз., зваротныя сродкі—22 жытн. адз., запас працы — 772 працоўныя дні дарослага мужчыны. Актыўны капітал гаспадаркі (капітал у жывёле, прыладах і абаротныя сродкі), на які гаспадар павінен атрымліваць належны процант прыбытку—490,03 жытн. адзінкі.

Паглядзім цяпер, якія прыбыткі атрымоўвае гаспадар ад усёй сваёй гаспадаркі і як яны аплачваюць яго працу і капіталы[2]).

(Далей будзе).

*Т. Куніцкі.*

## Штучныя гнаі.

(Далейшы працяг).

**Фасфорныя гнаі.** Супэрфасфат—гэта павязаньне фасфоравага квасу з вапнай. Яго вырабляюць з касьцей (костны супэрфасфат), або з фасфарытаў (мінэральны супэрфасфат), які спатыкаем на Падольлі. Яны маюць круглую форму, сталёвага колеру, вялічыні дзіцячай галавы. Так у касьцях, як і ў фасфарытах, зьяўляецца фасфоравая соль, вапна, якая не распускаецца ў вадзе. Пры помачы серчанага квасу фасфоравая вапна пераходзіць у павязаньне, якое лёгка распускаецца ў вадзе. У супэрфасфатах фасфоравага квасу ёсьць 16—20 проц. Распушчальнасьць супэрфасфату ў вадзе спрыяе яго хуткай дзеяльнасьці, бо лёгка расходзіцца ў зямлі. У землях, багатых вапнай, рассеяны супэрфасфат можа ўплываць 2—3 гады; у землях, якія бедныя вапнай, ледзь толькі адзін год. На пяшчыстыя лёгкія землі супэрфасфат менш прыдатны, бо вялікая прапушчальнасьць пяскоў прычыняе тое,

[2]) У сваім разуменьні істоты сялянскай гаспадаркі і тлумачэньні яе прыбытковасьці мы адхіляем як тэорыю „праца-спажывецкага“, так і тэорыю „праца-здабывальнага“ балянсу.

# Карэспандэнцыі.

## Пратэст.

(Маладэчанскі пав.).

**Мы**, ніжэйпадпісаныя сябры Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады і грамадзяне вёсак Пажарышчы і Пятроўшчына, даведаўшыся, што ўрад асыгнаваў 9.000.000 зл. на „Крэсы Усходнія“ дзеля куплі штучных гнаёў пад жыта, якую дапамогу даручыў падзяліць між сялянамі праз каапэратыўныя касы, знайшлі несправядлівасьць у падзеле ў нашай Гарадоцкай гм., Маладэчанскага пав., і пратэстуем проці гэтай несправядлівасьці. Многія з нас запісывалі ў бугальтэра каапэрацыйнай касы ў Гарадку, Пюрэвіча, па мяшкоў 2—3 тукаў, ды той абяцаў усім даць прошанае і казаў, што можна будзе бяз грошай на 8 месяцаў па цане каля 16 зл., за мяшок. Цяпер-жа, калі на ст. Аляхновічы на нашу гміну прыбыло 3 вагоны тукаў, Пюрэвіч раздаў гэта дваром і фальваркам, а нам не дасталося нічога.

Некаторыя двары хочуць прадаваць ад сябе тукі па цане 23 зл. за мяшок. Мясцовы абшарнік Штылер ужо прадаў чатыром гаспадаром па сказанай цане.

*(35 подпісаў).*

## Выбары ў гмінную раду.

(М. Відзы, Браслаўскага пав.).

Даўно чакалі сяляне перавыбараў у гмінную раду, але ўсё іх ня было. Вось раптам прыйшоў загад зрабіць перавыбары. Тут-та паны і кулакі, як на патэльні, круціліся, каб ня выпусьціць рады з сваіх рук. Абвесткі аб перавыбарах трэба было расклеіць за 10 дзён да выбараў, а яны расклеілі за дзьве гадзіны; — і розныя другія штукі выдумлівалі панкі, кажучы, каб кожная нацыя галасавала асобна. Мы-ж стаялі за тое, што ў кожнай нацыі ёсьць паразіты і што трэба выстаўляць адзіны сьпісак працоўных. Хаця прыймалі ўчасьце ў выбарах толькі 200 асоб з 3.000 (ня былі рэшта павядомлены), — прайшлі ўбольшасьці працуючыя сьвядомыя сяляне.

Паны і іх падлізы не здаволены гэтым і распускаюць слух, што выбары ня важны. Але гэта нічога, будзем і другі раз выбіраць сваіх, бо народ ужо разумее важнасьць нашых уплываў на гмінныя рады.

**К. М.**

## Бяз хлеба, бяз грошай працуй!

(Лужкі, Дзісьненскага пав.).

На маляўнічым беразе Мнюціцы другі год стаяць казармы для войска. Будавала іх „спулка“ кіеўскіх інжэнераў. Ад раніцы да вечара яшчэ і цяпер можна ўбачыць каля бюра наноў інжэнераў цэлыя тоўпы абарваных і галодных людзей. Гэта—тыя, чыімі рукамі і потам паўсталі харомы; гэта—тыя, якія амаль два гады чакаюць платы за сваю працу.—За сорак-пяцьдзесят вёрст прыходзяць яны за грашмі. Цэлымі днямі стаяць прад праклятушчым „бюрам“, адкуль выходзяць нарэшце важныя паны і кажуць, каб работнікі ішлі дамоў, бо грошы прыдуць на другі дзень і т. д. і т. д. На варце інтарэсаў гэтых паноў стаіць вядомы ўжо ня сёньня камандант Капшыцкі, які далёкіх рабочых і палякоў адправіў па этапу дамоў, а нашых беларусаў частуе нагайкаю, якую заўсёды носіць пры боку. У ліку пацярпеўшых ад гэтага пана значыцца селянін Крыўко з вёскі Жарсцьвянкі.

Усяго бюро вінавата 36,876 зл. — больш як 150 чалавекам, якія зарэгістраваліся; а колькі кінулі і зусім не рэгістравалася?

Была паслана дэлегацыя ў Варшаву, дзе абяцалі заплаціць, але калі? Ці не прыпатрэбіліся толькі нашы грошыкі пану інжэнеру Уладзіміру Буйніцкаму, аднаму з галоўных будаўнікоў, на абароцік з купляй фуража для 5 баону пагранічнікаў, бо-ж гэты пан узяў падрад дзеля дастаўкі прадуктаў для памянёнага баону? **Работнік.**

## Паны знаюць цану сваіх слуг.

(Лужкі, Дзісьненскага пав.).

З 2 на 3 чэрвеня памоцнік каманд. Лужэцкага пастарунку Парафіановіч шчыра „працаваў“, зганяючы з сэрвітутных палёў маёнтка Гарадзец скаціну сялян м. Лужок. Пры гэтым пастух Сьцяпан Лашаноўскі быў пабіты. Ураз-жа пасьля гэтага Парафіановіча назначылі камандантам у с. Чарневічы. 5 жніўня ўсё „начальства і папы“ рабілі праводзіны дарагому для іх „баяўніку“. Толькі бедны селянін глядзеў з-за вугла, ды пасылаў праклёны. **Ясь.**

## Паншчына.

(Наваградчына).

У арандатара двара Бараціна, Гарадэчанскай гм., пана Петрашкевіча, у пачатку жніўня работнікі зьбіралі збожжа з поля. Над імі стаялі некалькі прыганятых, — у тым ліку і паненка, дачка Петрашкевіча з дубінаю ў руках. Работніцы працавалі да, а то і пасьля заходу сонца.

Паненка падганяла работніц і некаторых біла сваею дубінаю. Алёну з в. Пойлава, Негнябіцкай гм., некалькі разоў ударыла па плячох і галаве за тое, што тая не пасьпявала з другімі. Работніца плакала, ды цярпела, бо баялася, каб не разьлічылі.

Ці гэта ня паншчына?! **Агнёў.**

**Ад рэдакцыі:** падайце ў суд, а калі другі раз нешта падобнае станецца, — кіньце працу ды згаварыцеся, каб ніхто з вёсак ня ішоў, пакуль паненка, ці панічок, у якіх сьвярбяць рукі, ня пойдуць з поля.

## Радуньскі Ліхвяр.

(Вёска Радунь, Мірскай гм., Стаўпецкага пав.)

Шуміць, гудзе, як устрывожаны вулей, Заходняя Беларусь. Імкнецца да арганізацыі, творыць гурткі Грамады, склікае сходы, выносіць пастановы бароцца з уціскам і гвалтамі.

Сьпіць толькі ў салодкім сьне многапакутная Радунь. Праўда-ж, многапакутная, бо церпіць яна ня толькі ад пана, але і мясцовага ліхвяра—Мікулы.

Даючы большы лік рабочых, ён заўсёды мае пяршынства захапіць на скос сенакосы князя Мірскага. Захапіўшы сядзе, як той павук пасярод сваей павуціны, важна разгладжваючы бараду, і чакае ахвяр.

Ен ведае, што людзі да яго прыйдуць, бо хто-ж патрапіць, ня маючы свайго і не прыкасіўшы на часці панскага, пратрымаць хоць адну кароўку?

І плыве бедната ды яшчэ і ня з пустымі рукамі. Мусіць кожны меіць бутэльку гарэлкі і закуску. Гэта ў яго завецца першы ўступны падатак. Але-ж гэта яшчэ ня ўсё. Лепшыя дзялянкі ён аддае сваім блізкім і тым, хто больш дасьць. Кожны, хочучы атрымаць лепшую дзялянку, каб хоць вярнуць за працу, поіць гэтага ліхвяра тайком ад другіх, гэтулькі, колькі той скажа. Напрыклад, Аркадзь Манюк, тае-ж вёскі, прапіўшы з 17 зл., атрымаў усёж-такі дзялянку, на якой накасіў для сябе адзін толькі воз, які гэтулкі каштаваў-бы і на кірмашы. А за працу хто-ж вярне яму? На каго-ж ён працаваў? Ды ўсё на таго-ж ліхвяра Т. Мікулу.

Прачхнецеся, браты, закладайце ў сябе гурток Грамады. Не давайце веры ілжывым чуткам, што за гэта пасадзяць за краты.

Грамадою мы ня толькі дамо сабе раду з ліхвяром, але адваюем і ў пана лепшыя варункі.

**Я. Г.**

## З сялян толькі падаткі бяруць.

(в. Рачканы, Ляхавіцкай гм., Баранавіцкага пав.).

Нашы вёскі Рачканы, Пашкоўцы і Гаслаўшчына да скасаваньня прыгону і пасьля без перарыву карысталіся на аснове сэрвітутнага права ўрочышчамі „Бор“, „Чэмерышнік“ і „Скрынкі“ з маёнтку Грушаўка, цяпер належачага да А. Рэйтанавай і Г. Грабовскага.

Даведаўшыся, што ўсе паперы, даказваючыя права сэрвітуту, згарэлі ў даверанага ў часе пажару, Грабоўскі падаў нас у суд за самавольнае пасьвеньне быдла. Дзьве судовыя інстанцыі ў Ляхавічах і Баранавічах засудзілі нас на 3.300 зл. на карысьць Рэйтанавай і Грабовскага і кожнага гаспадара па 8 злотых карных.

Падалі касацыю.

— 74 —

*Я. Кісьлякоў.*

# Тып беларускай сялянскай гаспадаркі.

*(Эканамічны нарыс на падставе рахункова - агранамічнага досьледу).*

## II.

Наша тыповая сялянская гаспадарка знаходзіцца ў 13 вярстах ад мястэчка, у 25 вяр. ад гораду і 20 вяр. ад чыгункі. Пры такой адлегласьці ад месца продажу сваіх продуктаў гаспадарка можа вытвараць на продаж усе прадукты (апроч сьвежага малака). З патрэбных гаспадарцы сродкаў вытворчасьці яна ня можа толькі купляць гною дзеля далёкасьці да мястэчка.

Сям'я, якая працуе на гаспадарцы, мае 6 чалавек: гаспадар, гаспадыня, хлопец і дзяўчына старэй 12 год і двое дзяцей да 12 год. Калі пералічыць усіх членаў сям'і ў „адзінку дарослага мужчыны“, то ў сям'і будзе 4,45 едакоў або 3,53 працоўных адзінкі. Значыцца, на адну працоўную адзінку прыпадае 1,28 едакоў. Запас працы на працягу году для ўсёй сям'і - 1.002 працоўных дні (сьвяты ў гэты лік не ўваходзяць). Прычым адна дарослая жанчына (гаспадыня) ўвесь год занята хатняй гаспадаркай (гатаваньне яды, мыцьцё бялізны, догляд за дзецьмі і інш.), на што яна траціць 230 „мужчынскіх дзён“. Значыць на вытворчую працу гаспадаркі сям'я можа даць 772 працоўных дні.

Пісьменнасьць сяброў сям'і: 1 граматны і 1 поўграматны мужчына і 1 поўграматная жанчына.

Сям'я карыстаецца 9,05 дзес. зямлі, з якой пад ворнай зямлёй знаходзіцца 5.48 дзес. або 60,8 проц. ад усёй плошчы; пад сенажацьцю 2,45 дзес. або 27,1 проц., рэшта—1,12 дзес.—пад сядзібай, гародам, выганам і няўдобіцай. Процант плошчы пад ворнай зямлёй у нашай гаспадарцы—большы, чым у швайцарскіх палепшаных сялянскіх трохпалёўках (42 проц.) і меншы, чым у шматпольных гольштынскіх гаспадарках (80 проц. пад ворнай зямлёй і гародам). Гарод у гаспадарцы невялікі—0,13 дзес. Саду, можна лічыць, зусім няма.

З будынкаў гаспадарка мае адну драўляную з саломенаю страхою хату, якая каштуе 150 жытных адзінак[1]); плошча падлогі ў хаце—105 квадр. аршын. або 11,7 квадр. сажня. Калі прызнаць для вёскі норму жылой плошчы такой-жа, як у горадзе (2 квадр. саж. на адну асобу), то ў нашай гаспадарцы павінна быць на 6 асоб 12 квадр. саж. Значыць, сям'я знаходзіцца ў больш-менш нармальных умовах адносна памяшчэньня.

Для жывёлы ў гаспадарцы ёсьць адзін вялікі і адзін малы хлеў, якія разам каштуюць 47,5 жытніх адзінак. Плошча гэтых хлявоў — 136 квадр. арш. або 15,1 кв. саж.; яе зусім даволі для тэй жывёлы, якая знаходзіцца ў гаспадарцы (ўсяго жывёлы ў пералічэньні на дарослую—6 штук; па 2 квадр. сажн. на галаву—12 квадр. саж.). Горш справа з якасьцю хлявоў: усе яны без падлогі і столі, цёмныя і халодныя; жывёла стаіць на гнаі, які выбіраецца два разы ў год — у вясну (красавік-травень) і ўлетку (чэрвень-жнівень). Умовы ўтрыманьня жывёлы, як бачым, дрэнныя.

Урэшце, гаспадарка мае яшчэ 3 іншыя халодныя будынкі: гумно,

[1]) У-ва ўсіх далейшых вылічэньнях вартасьці вылічаны ў жытніх адзінках, якой зьяўляецца каштоўнасьць аднаго пуда жыта.

— 79 —

Шупшыны. (Rosa canina).
Крапівы. (Vrtica dioica).

## ЯГАДЫ.

Белага бэзу. (Sambucus nigra).
Чарніцаў. (Vaccinium myrtillus).
Барбарысу (Berberis vulgaris).

## КАРЭНЬНЕ.

Буквіцы (Arnica montana),
Жывакосту (Symphytym officinale).
Панчошніку (сабачае мыла)—(Saponazia officynalis).
Валерыяну (Valeriana officynalis).

---

**Гарчыца чорная.** Лісьцё мае глыбока пярыстае, як і ўвесь быльнік, кветкі залаціста-жоўтыя. Цьвіце ад чэрвеня да жніўня. Насеньне сьпее, пачаўшы ад жніўня. Зьбіраюцца сьпелыя, чорнабурыя зерната, якіх знаходзіцца па 9 штук у стручку.

Расьце дзіка паміж збожжам, пры дарогах, на берагох рэчак. У некаторых мейсцах сеюць яе дзеля насеньня цэлымі плянтацыямі

**Гарчыца белая.** Як папярэдняя, кветкі мае бела-жоўтыя, у стручку па 3—5 зернят.

**Шупшына.** Вельмі калючы куст з мала разьвіслымі, зьдзеравянеўшымі галінамі. Лісьцё непарна-пярыстае, мае па 5 — 7 яйцаватых, востра-зубкаваных, лісточкаў. Кветкі вялікія, 5-ці пялёстныя, белыя, або ружовыя, пахнючыя. Овач—чырвоная, цьвёрдая ягада ў сярэдзіне мае многа вострых валаскоў, паміж якімі ляжыць насеньне. У верасьні і кастрычніку, як ягады шупшыны пасьпеюць, зьбіраюць іх, разразаюць удоўж і вытрасаюць насеньне, якое старанна сушаць, каб ня страціла натуральнага колеру. Самую-ж ягаду ачышчаюць ад валаскоў, крышаць на дробныя квадратныя кусочкі і сушаць на сонцы. Важна, каб затрымалі пекны чырвоны колер.

**Крапіва.** (гл. Гаспадарчы Аддзел. № 6),
**Белы бэз.** ( „ „ „ № 6).
**Чарніцы.** ( „ „ „ № 6).

**Барбарыс.** Цярністы куст. Лісточкі адваротна-яйцаватыя, зубкаваныя, сідзяць пучочкамі. Кветкі жоўтыя, пяціпялёстныя ў багатых зьвіслых кутасах. Овач—даўгаватая чырвоная ягада, вельмі кіслая. Барбарыс расьце ў гушчарох на гарах, на берагох рэк. Адчасьці, гэты куст шкодны, бо на ім разьвіваецца цёмна-жоўты грыбок, каторы пасьля кідаецца на збожжа; знаёмы пад назовам „збажовай іржы“. Ягады барбарысу зьбіраюцца і сушацца ў канцы жніўня і ў верасьні, пакуль яшчэ ня зусім сьпелыя.

**Буквіцца.** (гл. Гаспад. Аддзел № 5).

**Жывакост.** (Жывакосьнік). Расьліна трывалая. Быльнік мае пакрыты шорсткімі валаскамі, таксама як і вялікае, завостранае лісьцё. Кветкі руркаватыя, белыя, або ясна філятовыя ў аднабочных кутасах. Расьце на балотах і па берагох крыніц. Карэньні мае шырока-разрослыя, сочныя, зьверху чорныя, усярэдзіне бурыя. Карэньні жывакосьніку капаюцца ў працягу ўсяе восені, чысьцяцца і сушацца, пакрышаныя ў дробныя кусочкі.

Падавалі тэлеграму найвышым уладам Рэчыпаспалітай, просячы аб помачы. Аб Найвышым Судзе яшчэ ня ведама, бо справа будзе разглядацца 27-га верасьня с. г.

Наш крык аб помачы так-жа ніякіх разультатаў ня даў. Толькі бачылі мы, як праз нашу ваколіцу праляцелі тры аўтамабілі, казалі — з нейкім міністрам з Варшавы.

Можа, чытачы думаеце, што міністар прыяжджаў паглядзець нашых вузкіх шнурочкаў і ліквідаваць зямельны голад ды зьняць з нас цяжкія падаткі? Мо ён не пазволіць панам адбіраць у нас сэрвітута? Не! Не да нас ён прыяжджаў! Яго зусім ня цікавіць мужык: гэта скаціна рабочая, якая толькі падаткі павінна плаціць. Пан міністар затое цікавіцца тымі, каго з Варшавы засыпаў народнымі грашыма. Ён цікавіцца „асаднікамі". Гэтак наведаўся ён да асаднікаў у Каменцы, каля м. Ляхавіч, Баранавіцкага пав.

Цяпер нашы сяляне аканчальна згубілі надзею на добрую волю пана міністра і назвалі яго „міністар асаднікаў".

**Ю. Я. В.**

## Паштовая скрынка.

Ад:—Базыля Жыліча, Гальяша Шчыгліка, Е. Беразьняка, Мікалая Жыліча, Язэпа Лаўдара, Антона Якубовіча, Тодара Скобелева, Пятра Савашчынскага, Аляксандра Стагановіча, Антона Баліцкага, Карнэля Байкі, Кірылы Цішэўскага, Сяргея Лапуха, Антона Кандрацьева, Піліпа Цьвінара, Яна Дабрыяна, Аўгена Каляды, Станіслава Лаўноўскага, Базыля Вашкевіча, Ігната Зарэкі, Базыля Рудзіча, Самуіла Трусэвіча, Піліпа Калядкі, Пятра Сарокі, Нікадзіма Пашкевіча, Аляксандра Круцькі, Уладыслава Янушкевіча, Віктара Ланцэвіча, Сьцяпана Маліноўскага, Базыля Зюзюка, Антона Мятлы, Язэпа Кашаеда, Уладзіміра Бучка, Міхала Наваграна, Аляксандра Бірука, Уладзіміра Карбутоўскага, Уладзіміра Буцькі, Язэпа Малецкага, Яна БасьКі, Рамана Паліводы, Кастуся Мажуля, Сяргея Сталамаха, Мацея Буцькі, Е. Казакевіча, Янкі Карпея Сяргея Скрабатуна, Юстына Ваўка, Андрэя Каўбасьнікава, Лукаша Скамародкі, Яна Цыбульскага, Аркадзя Адамовіча, Паўла Цыркіна, Аляксандра Качкіля, Тодара Халадзілы, Мікалая Кручкі, Яна Васілеўскага, Аляксандра Шэпшэлевіча, Кірылы Гулька, В. Бахарэвіча, Язэпа Гурлы, Цімахвея Роўцы, Юрага Мацука, Паўла Саваша, Пятра Гіля, Случчанскага К-ту, Язэпа Шпаковіча, Антона Налівайкі, Мікалая Кандрусіка, Анатоля Сахарчука, Рыгора Крыўца, Васіля Гурбана, Аляксандра, Ахрука, Тодара Наумовіча, Мікалая Кісьцюка, Зм. Калаура, Рамана Гулевіча, Міхала Салагуба, К. Нікалаевіча, Мікалая Малаўчука, Мікалая Хваля, Лукаша Лапкі, Уладзіміра Філяновіча, Яна Шосткі, Уладзіміра Русака, Канст. Галубовіча, Тодара Ліцкевіча, Аляксандра Пучка, Ігната Пеські, Захара Босага, Рамана Лапаты—**па 1 зл. 50 гр.**

# АБВЕСТКА.

Надзвычайны Агульны Сход Сяброў Таварыства Беларускае Школы 8-га жніўня г. г. не адбыўся дзеля браку патрэбнага ліку сяброў. З гэтае прычыны 8 верасьня г.г. у 4 гадзіны дня ў памяшчэньні Таварыства—Віленская 12 — паўторна адбудзецца Надзвычайны Агульны Сход Сяброў, які будзе правамоцны пры любым ліку сабраўшыхся Сяброў.

Парадак дня той самы: 1. Рэарганізацыя Т-ва паводле нова-зацьверджанага Статуту г. з. дзеля выбару Галоўнае Управы Нагляднае Рады; 2. Бягучыя справы.

**Галоўная Управа Т-ва Бел. Школы.**



**Ня траціце часу, а неадкладна падпішэцеся на найлепшую беларуск. багата ілюстраваную двохтыднёвую гумарыстычную часопісь**

# „МАЛАНКА".

**Востры гумар! Здаровы сьмех!**
**Сьмела ўсім рэжа праўду ў вочы!**

**ПАДПІСНАЯ ПЛАТА**: На год **8** зл., на паўгода **4** зл. і на тры мес. 2 зл. (Заграніцу на год **2** даляры, і на паўгода **1** даляр).

Купляйце гатовыя камплекты **„Маланкі"** №№ 4, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 13, 14 за **тры** зл. з перасылкай.

**ЗГУБЛЕНЫ** 8. IV. 1926 г. ў м. Трабах дакумэнты: вайсковая кніжка на імя Кароля Аніськевіча, жыхара в Мацюкі, Трабскае гм. Валожынскага пав. (рочнік 1893 г.), выданая „Pow. Kom. Uzupełnień. Lida", і рэгістрацыйная карта на імя яго-ж, выданая гмінным урадам.

# НАВАГРАДЗКАЯ

## Беларуская 8-мі кл. Гімназія

### прырода-матэматычнага тыпу

даводзіць да ведама грамадзянства, што прыймовыя экзамены вучняў на 1926—1927 школьны год ува ўсе клясы Гімназіі адбудуцца восеньню:
ад 1-га да 10-га верасьня.

Заявы аб дапушчэньні дзяцей да экзаменаў падаюць іх бацькі, або апякуны.

Да заявы трэба далучыць:
1) Мэтрыку аб нараджэньні вучня;
2) Пасьведчаньне доктара аб прышчэпе воспы;
3) Дакумэнты аб папярэдняй адукацыі, калі паступаючы вучыўся ў якой школе.

Жадаючыя паступіць у 8-ю клясу, або перавясьціся з іншай гімназіі ў гэтую клясу, павінны зьвярнуцца з просьбаю „Do Kuratorjum Okręgu Szkolnego Białostockiego w Białymstoku" аб дазволе, прылучыўшы да паданьня вышэй абазначаныя дакумэнты.

Заняткі ў гімназіі пачнуцца 15-га верасьня.
Навука ў першай клясе бясплатна.

**Дырэкцыя.**

# Радашкоўская Беларуская Гімназія

### васьмёхклясовая ім. Ф. Скарыны.

Утрым. Т-вам Беларускае Школы ў Радашковічах.

Адчынена прыймо вучняў і вучаніц. Пачатак уступных экзаменаў і заняткаў 15-га верасьня 1926 г.

Прыежджыя вучні могуць карыстаць з інтэрнату, у якім харчаваньне сваё, кватэра, апал і сьвятло для маламожных дарма.

**Дырэкцыя.**

Адрэс: почта Радашковічы
стан. чыгункі—Аляхновічы.

**На падставе загаду Міністэрства Асьветы заняткі ў ва-ўсіх школах (народных і сярэдніх), а таму й у Віл. Бел. Гімназіі, пачнуцца 15 верасьня. Экзамены і пераэкзаменоўкі адбудуцца 13 і 14 таго-ж месяца.**

*Дырэкцыя.*

Адказны-Рэдактар: **Т. Крачына.**

Выдавец пасол на Сойм **П. Мятла.**



**Панчошнік** (гл. Гаспад. Аддзел № 5).

**Валерыян.**—Трывалая расьліна, спатыкаецца ў вялікім ліку ў зарасьлях, на берэгох рэчак і крыніцаў і на тарфяных балотах. Быльнік мае да 150 цм. высокі, усярэдзіне пусты. Лісьцё няпарна-дзеленае з язычкаватымі прылісьнікамі. Цьвіце ад чэрвеня да жніўня ясна-ружовым цьветам, сабраным буйнымі кружкамі. Корань грубы, пад самым верхам зямлі да 5 цм., далей разрастаецца на колькінаццаць доўгіх карэньчыкаў. Колер карэньняў сівабуры, або бура-жоўты, залежна ад зямлі, у якой расьце. Карэньні валерыяну капаюць, як толькі расьліна перацьвіце. Старанна іх мыюць, ачышчаюць ад дробненькіх карэньчыкаў і дробна крышаць. Сушаць на вольным паветры. Сухія карэньні маюць вельмі моцны, прыемны пах, дзеля гэтага трэба іх трымаць шчыльна запакаванымі, каб гэтага паху ня страцілі.

Сушачы і перахоўваючы, трэба берагчы ад катоў, якія страшэнна любяць запах валерыяну і сушаныя карэньні ядуць.



# Самаўрады і земляробства.

Як вядома, куртатая гаспадарка, якая вядзецца ў нашых самаўрадах за грошы, цягненыя з земляробства і то пераважна з яго, вядзе тую сваю жыцядайную крыніцу да згубы. Грошы тыя, а іх штогодна з кожнага павету сьцягіваюцца сотні тысяч злотых, ідуць пераважна на аплачываньне вялікіх штатаў самаўрадавых урадоўцаў, каторыя што год займаюцца пісаньнем наказаў ды прыказаў, бо на сапраўдную гаспадарку грошай заўсягды недахват. Як у восені грошы зьбіраюцца ў касе, то работ ніякіх ужо праводзіць не ўдаецца, тым болей, што работы тыя—пераважна дарогі і іх рэмонт, і так грошы расходзяцца то на ўтрыманьне двух дзесяткаў сірот у павеце, то на нейкія імпрозы, як будова школ земляробства, званых трафна сярод беларусаў „школамі польскай палітграматы", у каторых навучаньне аднаго вучня абходзіцца даражэй, чым студэнта ў унівэрсытэце і каторага ў іх амаль нічога, маючага сувязь з земляробствам, не навучаць. Дагэтага частка грошы кідаецца на дарагую земляробу лекарскую помач, ну і на заплату даўгоў, якія былі зацягнены на аплату ўрадоўцаў у тым часе, як грошай у касе ня было. Як прыклад, успомнім хоцьбы дарожную гаспадарку ў нашых сойміках: у гэтым годзе ўсе т.-зв. соймікавыя дарогі перададзены ў гміны дзеля того, што там іх можна правіць т.-зв. „шарваркай", за якую амаль што нічога ня плаціцца. На земляробства адводзіцца часам у бюджэце соймікаў якіх з пару тысяч, каторыя аднак з недахвату грошы да канца году і не выдаюцца.

І так, каб захаваць тую крыніцу, каб ня высахла, ды і павялічыць яе выдайнасьць, самаўрад ня дбае, бо ня рупіцца нат' аб падстаўным пытаньні земляробства—аб земляўпарадкаваньні.

Гмінныя і павятовыя самаўрады складаюцца амаль ня выключна з самых земляробаў, аднак, тым-жа самаўрадам, як-бы чужым было пытаньне аб формах земляўпарадкаваньня і землякарыстаньня. Ні на адным з паседжаньняў гмінных рад ды соймікаў не пачуеш ніколі адкрытых гутарак аб гэтым, міма што ў кожнага з учасьнікаў даўно назрэла ў думках, як выгадней ды справядліва правесьці „рэформу рольну" і кожны мог-бы сказаць аб гэтым не адно цікавае, што ў канечным рэзультаце дало-бы добра апрацаваны матар'ял Сойму і Ураду дзеля ўсталеньня закону аб земляўпарадкаваньні.

Дзеецца гэта выключна дзеля таго, што самаўрад наш ня ёсьць запраўдным самаўрадам. ён ёсьць горшым чым былі самаўрады за царскіх часаў, ён сільна скован па руках і нагах прадстаўнікамі ўраду—старостамі, а ў гмінах іх даверанымі войтамі-назначэнцамі і ўсе яны дбаюць і добра дбаюць, каб тое пытаньне ня выплыло на паседжаньнях, бо яно напэўна вылілася-б ня ў той форме, якая падабалася-б нашым буржуазным урадам.

Крыўда, якая дзеецца беларускаму народу пры правядзеньні т.-зв. „рэформы рольнай"—земляўпарадкаваньня надта вялікая, і бараніць сваіх правоў на зямлю народ наш павінен усімі сіламі; тое пытаньне павінен ён падымаць усюды: і ў гмінных радах і ў сойміках. Не даволі таго, ён павінен тварыць **камітэты абароны зямлі**, праз якія трэбаваць у ўраду надзяленьня яго ў першую чаргу зямлёй, каторую яго дзяды і прадзеды ды ён сам абліў сваім потам і кроўю.



Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22.